Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 76 (5407)
Аўторак, 25 чэрвеня 2002 года

У студэнтаў - сесія

## Матэматыкі, якія філасофствуюць

**"Школа і ВНУ - арганічнае цэлае. Мы павінны працаваць у дыялектычным адзінстве", — лічыць доктар філасофскіх навук, дэкан матэматычнага факультэта БДПУ імя М.Танка Павел Кікель**

***Ёсць людзі "жаваранкі" і "совы". Пэўна, у выйгрышы першыя, бо яны, як птушкі раннія, прачынаюцца разам з сонцам і ўсе важныя справы робяць у першыя гадзіны дня. У народзе ж нездарма кажуць: хто рана ўстае, таму і Бог дае.***

***Экзамен па філасофіі ў другакурснікаў матэматычнага факультэта БДУ імя М.Танка пачаўся ў восем гадзін раніцы. Гэта быў мінулы аўторак, 18 чэрвеня. Цудоўны сонечны дзень спрыяў добраму самаадчуванню.***

Экзамен - час падвядзення вынікаў, а калі глянуць па-філасофску, дык гэта, мабыць, своеасаблівы момант ісціны. Момант, калі студэнт атрымлівае адзнаку за тое, што за пэўны час зрабіў і чаму навучыўся. Асаблівасць экзамену, на якім мы прысутнічалі разам з фотакарэспандэнтам, у тым, што ідучы на яго, студэнт дакладна ведае, якая адзнака з'явіцца ў яго залікоўцы: "добра" ці "выдатна". Ніжэй дэкан матэматычнага факультэта Павел Васільевіч Кікель сваім студэнтам не ставіць. Ну, а ўжо "добра" ці "выдатна" - справа гонару студэнта. І ніякіх стрэсавых сітуацый. Аднак, каб дазволіць сабе такую раскошу, на працягу года, з верасня па чэрвень яго студэнты, як вобразна падкрэсліў сам выкладчык, бы тыя пчолкі, сумленна працуюць над праграмай курса, авалодваючы ведамі. Дакладней, выкладчык ставіць студэнтаў у такія ўмовы, калі не працаваць на працягу года яны не могуць і не маюць права. На лекцыі П.В.Кікеля, як гаварылі мне на факультэце, прыходзяць нават самыя лянівыя: наведванне - стопрацэнтнае. Бо лекцыі - асаблівыя, цікавыя, поўныя глыбокіх ідэй і аптымістычных эмоцый, якія натхняюць на працу. "Пасля лекцый П.В.Кікеля, - прызнаўся мне адзін студэнт, - у мяне заўсёды ўзнімаецца настрой і нібыта вырастаюць крылы. Ён - наш мудры доктар і настаўнік па жыцці. І самая галоўная ўмова паміж выкладчыкам і студэнтамі - творчыя адносіны да справы, да дадзенага канкрэтнага курса і ўвогуле да вучобы, да жыцця".

На дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў Павел Васільевіч Кікель перайшоў даўно і выкарыстоўвае яе ўжо пятнаццаць гадоў. Жыццё пацвердзіла правільнасць яго выбару. Я бачыла ў яго журнале "дзесяткі" з зорачкамі, якія студэнты атрымліваюць за творчасць, палёт і глыбіню думкі. І тут нельга ўсё спісваць на шчодрасць выкладчыка, які, дарэчы, даўно ўвёў такую практыку, каб студэнты самі ацэньвалі свае веды, ставілі балы адзін аднаму. Бывае ўсяго адзін выпадак з дзесяці, калі адзнака выкладчыка не супадае са студэнцкай.

Спецыяльна для матэматычнага факультэта з улікам яго спецыфікі П.В.Кікель падрыхтаваў для сваіх студэнтаў вучэбна-метадычны дапаможнік "Філасофія". У ім студэнт знойдзе праграму і змест лекцыйнага курса, тэматыку практычных заняткаў, пяцьдзесят шэсць кантрольных пытанняў, кароткі слоўнік філасофскіх тэрмінаў і г.д.

Стараста групы Ірына Арашкевіч, выпускніца сярэдняй школы №139 Мінска, паказала нам таўшчэзную кнігу, у якой сабраны ўсе творчыя работы другакурснікаў: рэфераты, вершы, малюнкі - вынік працы выкладчыка і студэнтаў за год. І такіх вось кніг у дэкана матэматычнага факультэта ўжо адзінаццаць! Такі цудоўны сюрпрыз рыхтуе ён ужо сёння да сустрэчы "матфакаўцаў" праз дваццаць гадоў.

Філасофію жыцця студэнты-матэматыкі спасцігаюць праз канкрэтныя тэмы рэфератаў. Пісаць рэфераты можна прозай і ў рыфму. І во дзіва! У некаторых будучых настаўнікаў матэматыкі нечакана нават для іх жа саміх атрымліваюцца цудоўныя філасофскія трактаты. Зачытаешся! Пісьмовая мова развівае мысленне, пастаянна нагадвае сваім студэнтам выкладчык. Пішыце і думайце, дарагія мае! Вучыцеся разважаць лагічна і называць рэчы сваімі імёнамі. Прывяду толькі некалькі назваў тэм рэфератаў. Яны, пагадзіцеся, інтрыгуюць. У тэмах - прастора для роздуму і творчасці: "Аб карысці філасофіі", "Мой ідэал", "Прастора", "Чалавек - мера ўсіх рэчаў", "Ісціна і праўда", "Не бывае проста так", "Як я працую над сабой" і г.д. Усяго пятнаццаць варыянтаў.

Сам ход экзамену нагадваў мне шчырую размову добрага мнагадзетнага бацькі з роднымі дзецьмі, якіх ён бязмежна любіць, даражыць і хвалюецца за іх лёс, станаўленне як асоб, за іх будучыню. Ён ведае, чым жыве і "дыхае" кожны. Хто шчыры, а хто хітрыць. Хто разаб'ецца "ў дошку", але заданне выканае, а хто - гультаяваты. Усяго ў групе 24 чалавекі.

Разам з ведамі Павел Васільевіч дае другакурснікам урокі жыцця.

- Ты, Аляксандр, напісаў цудоўны рэферат, актыўна выступаў на практычных занятках, і вершы твае лірычныя і самабытныя, але вось малюнак твой мне не спадабаўся. І ведаеш чаму? У ім вельмі шмат песімізму, які я з вас ганю! Вы - будучыя настаўнікі, а настаўнік не мае права на песімізм. У тваёй рабоце побач з вялізным шыкоўным дрэвам - яго шкілет. Наадварот бы! Помні, Саша, мудры чалавек (вы ж у мяне цяпер філосафы, а філосаф - значыць мудры) можа быць шчаслівым, маючы толькі акрайчык хлеба і шклянку вады. Іншы мае ўсё - а няшчасны.

Да песімізму студэнта прывялі жыццёвыя абставіны. Тады ён перажываў смерць бацькі. Тым не менш у залікоўцы Аляксандра Абрагімовіча (выпускніка сярэдняй школы №2 Клецка) з'явілася "выдатна".

- Ведаеш, чаму я не стаўлю табе "выдатна"? - тлумачыць экзаменатар дзяўчыне-другакурсніцы. - Таму што канспект па філасофіі ты пісала не для сябе, а для мяне. Ваша вучоба, усё, што вы робіце, - вы робіце на карысць людзям, вы служыце Айчыне, а не дэкану, начальніку, старасце групы. Хто спрабуе маніць - падманвае ў першую чаргу сябе. З пункту гледжання філасофіі ў жыцці пануе справядлівасць, перамагае дабро. Рабіце ўсё сумленна, і яно адорыць кожнага з вас сваёй завушнічкай.



Далей студэнтка разважае і тлумачыць, як яна разумее сутнасць філасофскага закону адзінства і барацьбы процілегласцей. Падлога і столь - гэта процілегласці?

Душой групы назваў Павел Васільевіч Іну Жданові ч, высока ацаніў яе вершы. Іне болей бы да сябе патрабавальнасці, умення засяродзіцца, сканцэнтравацца - і ў краіне з цягам часу, магчыма, з'явілася б яшчэ адна Еўдакія Лось. Іна - выпускніца сярэдняй школы №2 Капыля, вучылася ў педкласе. З удзячнасцю ўспамінае сваю настаўніцу матэматыкі Валянціну Андрэеўну Гузаву. Пасля заканчэння універсітэта Іна марыць вярнуцца ў родную школу працаваць настаўніцай матэматыкі.

Дарэчы, па накіраванню ў групе не адна Іна. Напрыклад, Паша Максімовіч, выпускнік Мількаўскай сельскай школы, што на Браслаўшчыне, марыць вярнуцца працаваць у родныя мясціны. У мінулым годзе такіх, як Іна і Паша, было прынята на факультэт 43 чалавекі пры агульным наборы - 125 чалавек. Конкурс на матэматычны факультэт ёсць нават сярод медалістаў. У мінулым годзе, напрыклад, са 120 медалістаў па субяседаванню прайшлі толькі 70 чалавек. Астатнім было прапанавана здаваць уступныя экзамены на правах, роўных з усімі.

- У матэматыках краіна мае патрэбу, - гаворыць Павел Васільевіч Кікель. - Я перакананы, што да нас прыходзяць лепшыя выпускнікі агульнаадукацыйных школ краіны. Школа і ВНУ - арганічнае цэлае. Мы павінны працаваць у дыялектычным адзінстве. Я ў такой жа меры адказваю за якасць падрыхтоўкі настаўніка, як настаўнік — за якасць падрыхтоўкі абітурыента, будучага студэнта. А калі мы недзе недапрацоўваем - дык недапрацоўваем разам. А тое, што сёння ў нашы школы толькі, мабыць, адзінкі ідуць па прызванню (а большасць — па неабходнасці неяк уладкавацца ў жыцці) - гэта не праблема ВНУ і школы. Гэта праблема жыцця, праблема адносін дзяржавы да настаўніцтва.

Сёлета на матэматычным факультэце плануецца эксперымент з новай спецыяльнасцю. Праўда, ён дорага каштуе. Дадаткова да бюджэтнікаў на платнай аснове плануецца набраць групу 25 чалавек па субяседаванню на спецыяльнасць "Інфарматыка і англійская мова". Кошт вучобы за год - прыблізна 650 умоўных адзінак. Абітурыенты, якія пажадаюць вучыцца тут, будуць здаваць экзамены па інфарматыцы, англійскай мове і пісаць сачыненне.

Дэкан факультэта перакананы, што ідэя мае перспектыву.

- Паглядзім, як пойдзе справа, - гаворыць ён. - Гэта, я лічу, будзе суперспецыяльнасць. Інфарматыка - матэматыка XXI стагоддзя. А плацім мы сёння за тое, што цэніцца, - за веды. Інфарматыка і англійская мова - тыя веды, якія сёння каціруюцца ва ўсім свеце. Гэта будзе першы вопыт у краіне: інфарматыка ў кантэксце адукацыі, а дакладней, у матэматычнай адукацыі.

Напрыканцы нагадаю яшчэ раз, што экзамен у студэнтаў прымаў прафесар, доктар філасофскіх навук, правадзейны член міжнароднай акадэміі тэхнічнай адукацыі Павел Васільевіч Кікель. Яго навуковыя інтарэсы - філасофскія праблемы сучаснай матэматыкі, якія ён цесна ўвязвае з жыццём і, як бачым, паспяхова перадае студэнтам.

Пасля экзамену да мяне падышла Ірына Сакерына і расказала вось такую сваю гісторыю. (Мабыць, падкрэсліла яна, навука іншым будзе.) Пасля школы Ірына марыла паступіць на факультэт журналістыкі, але да мары не хапіла некалькі балаў. Перажывала гэты факт як трагедыю. Пасля параілася з мамай і вырашыла паступаць на матфак, у педуніверсітэт.

- Вы бачылі нашы насценныя газеты, - узнёсла гаварыла другакурсніца. - А якія мы праводзім КВНы. Матэматыкі - цікавы народ. Як добра, што ўсё атрымалася менавіта так! Гэта - лёс! Матфак - мой лёс.



**Святлана БЕНЬ.**

НА ЗДЫМКАХ: экзамен прымае П.В.Кікель; студэнтка 2-га курса Людміла Акуліч; момант ісціны.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Прэзентацыя

## Сучасная бібліятэка, навуковы часопіс

***Адначасова дзве знамянальныя падзеі надарыліся ў Мінскім інстытуце кіравання: адкрыццё новай чытальнай залы бібліятэкі і прэзентацыя двух першых нумароў навукова-практычнага часопіса "Эканоміка, кіраванне, права".***

Літаральна на працягу года з выкарыстаннем сучасных будаўнічых тэхналогій паддашкавае памяшканне аднаго з вучэбных карпусоў інстытута ператварылася ў прыгожую светлую залу бібліятэкі, у якой цяпер маюць мажлівасць самастойна працаваць з кнігамі 200 студэнтаў і 30 выкладчыкаў (для іх адведзены асобны пакой, побач з галоўнай чытальнай залай).

Бібліятэка мае выхад на электронныя сродкі інфармацыі і камунікацыі, Інтэрнет, тэхніку для сканіравання і ксеракопіі.

- Любая вышэйшая навучальная ўстанова пасапраўднаму з'яўляецца такой, калі яна мае салідную бібліятэку і, канешне ж, чытальную залу, - сказаў на ўрачыстым адкрыцці бібліятэкі і прэзентацыі часопіса першы намеснік Міністра адукацыі Аляксандр Іванавіч Жук. - Мы разумеем, што веды нельга даць, іх трэба узяць. І стварыць для студэнтаў умовы, у якіх гэтыя веды можна атрымліваць, з'яўляецца задачай кіраўніцтва вышэйшых навучальных устаноў. Адкрыццё такой светлай чытальнай залы з Інтэрнэт-цэнтрам, з магчымасцямі пошуку электроннай інфармацыі - з'ява прагрэсіўная і своечасовая. Міністэрства адукацыі паставіла задачу здзейсніць доступ да рэсурсаў Інтэрнета ўсіх вышэйшых навучальных устаноў, - адзначыў Аляксандр Іванавіч. - Сённяшняя падзея з'яўляецца знакавай і ў гэтых адносінах: вось прыклад прыватнай ВНУ, якая сур'ёзна глядзіць у будучыню і знаходзіцца у шэрагу такіх навучальных устаноў на перадавых пазіцыях. Дзесяць гадоў дзейнасці гэтага інстытута сведчаць пра тое, што тут умеюць працаваць на перспектыву: кіраўніцтва мэтанакіравана ўкладвае грошы ў развіццё матэрыяльнай базы і паляпшэнне сацыяльных умоў навучання і жыцця студэнтаў.

Аляксандр Іванавіч Жук павіншаваў рэктара інстытута Мікалая Васільевіча Сушу з адкрыццём бібліятэкі і выхадам у свет першых нумароў інстытуцкага навукова-практычнага часопіса і ад імя Міністэрства адукацыі выказаў падзяку за тое, што кіраўніцтва інстытута рэальна здзяйсняе палітыку нашай дзяржавы ў развіцці вышэйшай адукацыі, удасканальвае гэтую працу і стварае ўсе ўмовы для таго, каб выпускнікі інстытута, будучыя спецыялісты, былі канкурэнтаздольнымі, мабільнымі на рынку працы.

З адкрыццём бібліятэкі шчыра павіншавалі кіраўніцтва інстытута і асабіста загадчыцу прадстаўнікі бібліятэчнай асацыяцыі. Яны прыйшлі на гэтую прэзентацыю са сваімі падарункамі, кветкамі.

- Бібліятэка - гэта добра. Але калі ў ёй ёсць часопіс, у якім - працы і думкі выкладчыкаў інстытута, вядомых навукоўцаў у галіне эканомікі, кіравання і юрыспрудэнцыі, - сказаў доктар эканамічных навук, прафесар Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сцяпанавіч Галавачоў, - гэта падзея значная не толькі для інстытута, але і для усёй краіны. Застаецца пажадаць такому часопісу доўгага развіцця і плёну. Таму што сёння толькі некаторыя нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы маюць свае часопісы такога навукова-практычнага кшталту.

Падчас прэзентацыі кіраўніцтву інстытута было выказана шмат шчырых слоў падзякі за рэальныя вынікі працы, як з боку навукоўцаў, вядомых у нашай краіне людзей, так і студэнтаў інстытута і пажаданні далейшага паспяховага развіцця інстытута, яго матэрыяльнай і навуковай базы.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

Весткі

### Дзень навукі ў педкаледжы

***Сярод навучэнцаў Лідскага педкаледжа шырыцца навукова-даследчыцкі пошук. Аб яго набытках ішла размова на праведзеным тут дні навукі. З паведамленнямі аб тым, як фарміраваць прафесіяналізм настаўніка, педагога новага веку, гаварылі выкладчыкі і іх выхаванцы.***

Акрамя пленарнага пасяджэння, працавалі секцыі, адбыліся творчыя сустрэчы і дыспуты. Добрае ўражанне пакінула выстава работ па працоўнаму выхаванню. З набыткамі калег пазнаёміліся загадчыкі дзіцячых садоў і ясляў горада, завучы школ.

### Карысныя стасункі

***Турэцкая сярэдняя школа першай у Карэліцкім раёне перайшла на дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў вучняў і дабілася ў сёлетнім навучальным годзе прыкметных поспехаў.***

Умацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы і паляпшэнню вучэбна-выхаваўчай работы спрыяюць і добрыя стасункі калектыву з іншымі навучальнымі ўстановамі і гарадскімі арганізацыямі. Дзякуючы сувязям з Фундацыяй Орса Рамана атрыманы два навейшыя камп'ютэры. Пры садзейнічанні Беларускага нацыянальнага гуманітарнага ліцэя дзве настаўніцы прынялі ўдзел у семінары на тэму "Інтэнсіўныя адукацыйныя тэхналогіі". А пісьменнік Уладзімір Арлоў нядаўна падарыў вучням малодшых класаў набор кніжак з аўтографамі.

### І занятак, і свята

***У маляўнічым урочышчы Рыбакі адбыўся турыстычны злёт настаўнікаў Дзятлаўскага раёна. За права называцца лепшымі ў сваіх групах спаборнічалі 17 каманд.***

Акрамя спартыўных дасягненняў, яны дэманстравалі сваё ўмельства на конкурсе турысцкай моды ў якасці мадэльераў і топ-мадэляў. У агульным заліку першае месца дасталася сярэдняй школе №1 Дзятлава, Мялякавіцкай сярэдняй і Раклевіцкай базавай школам (па адпаведных групах). Добра выступілі таксама турысты з сярэдняй школы №2 Дзятлава, Хвінявіцкай і Рагатнаўскай сярэдніх, Ахонаўскай базавай школ і Рудаяварскай школы-сада.

### "Мальвы-2002"

***Так называўся традыцыйны рэспубліканскі конкурс маладзёжнай эстраднай польскай песні, які штогод праводзіцца Саюзам палякаў Беларусі. Сваё выканаўчае майстэрства дэманстравалі юныя салісты з Мінска і Гродна, Барысава, Навагрудка і Ліды.***

Пераможцай стала навучэнка Лідскага музычнага вучылішча Ірына Гадаева. Родныя сцены і асабісты талент дапамаглі дзяўчыне вызначыцца сярод лепшых другі год запар. Як і летась, яна прыме ўдзел у міжнародным конкурсе "Мальвы-2002", што адбудзецца ў Польшчы.

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ.**

## Эксперымент набывае размах

***У Віцебску была зладжана заключная ў сёлетнім навучальным годзе канферэнцыя педагогаў ясляў-сада №97 і базавых школ, настаўнікі якіх асвойваюць "крокаўскую" праграму. Ёй папярэднічала сустрэча педагогаў з бацькоўскім саветам.***

Педагогі ясляў-сада ў навучанні і выхаванні дзяцей кіруюцца праграмай "Крок за крокам", у прыватнасці яе першай часткай, разлічанай на дашкольнікаў - "Першы крок".

У ліку дзесяці ясляў-садоў краіны педкалектыў ступіў на дарогу эксперыменту. Спачатку па новай праграме выхоўвалі 47 дзяўчынак і хлопчыкаў, а сёння - ужо 252. Сюды трэба дадаць 147 вучняў малодшых класаў, якія вучацца ў "крокаўскіх" класах гарадскіх сярэдніх школ №№37, 39 і 45.

Складанай была адаптацыя педкалектыву да новага падыходу ў працы з дзіцем, сям'ёй. Ён меў на мэце стварэнне ўмоў, пры якіх камфортна адчувала б сябе дзіця і адначасова наладжвалася супрацоўніцтва з яго бацькамі.

Гэта вымагала, скажам, перабудовы працы педагога-настаўніка з улікам асаблівасцей, інтарэсаў кожнай сям'і ў выхаванні дзяцей і, зразумела - якаснай падрыхтоўкі малых да школы.

Каля чатырох гадоў працягвалася станаўленне, адпрацоўка пэўнай сістэмы. Цяпер жа дзеці маюць магчымасць атрымліваць і дадатковыя (платныя) выхаваўча-адукацыйныя паслугі. У выніку з'явіўся новы тып установы - Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці. Дзяўчынкі і хлопчыкі займелі права выбару як дзейнасці, так і выкладчыка - прычым штодзённа. Дзеці займаюцца ў мікрагрупах, у якіх спецыяліст удзяляе максімум увагі кожнаму выхаванцу, і, вядома, стала больш магчымасці для ўзаемін з равеснікамі.

Пэўную ролю адыгрывае і бацькоўскі актыў. З ім абмяркоўваюцца ўсе сацыяльна-адукацыйныя пытанні. Бацькі, як правіла, выбіраюць праекты дзейнасці груп. Відавочна, лепш за іх ніхто не вызначыць эфектыўнасць эксперыменту.

Бацькоў найперш прыцягвае дэмакратызм выхавання, прыярытэт асобы, які культывуецца з "младых ногцей", мудрая і шчырая любоў дарослых да дзяцей; дапамога ў згуртаванні, збліжэнні членаў сям'і і стварэнні такіх умоў, пры якіх духоўна расце кожны.

Можна ўжо казаць і пра пэўныя напрацоўкі: пачатковыя класы 37-й сярэдняй школы Віцебска прынялі эстафету "крокаўскай" адукацыі. Настаўнікі абагульнілі свой вопыт работы ў дзвюх кнігах па метадыцы.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

***Проект***

# Рекомендации по организационно-содержательному наполнению шестого (школьного) дня недели

***Согласно протоколу поручений Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко, данных на Втором съезде учителей Республики Беларусь 3 ноября 2001 г., № 56, начиная с 2002/2003 нового учебного года общеобразовательные учебные заведения переходят на пятидневную учебную неделю с шестым рабочим внеурочным днем для проведения культурно-массовых и спортивно-оздоровительных мероприятий.***

***Министерство образования Республики Беларусь подготовило Проект рекомендаций по организационно-содержательному наполнению шестого (школьного) дня недели. Предлагаем обсудить данные рекомендации в учебных заведениях, с родительской общественностью, другими заинтересованными ведомствами и представить свои предложения в редакцию "Настаўніцкай газеты" или в Главное управление социальной и воспитательной работы Министерства образования Республики Беларусь до 8 июля 2002 г.***

Задача данных рекомендаций по организационно-содержательному наполнению шестого (школьного) дня недели заключается в оказании помощи организаторам воспитательной работы с учащимися.

В рекомендациях рассматриваются не вообще все виды и формы деятельности учащихся, а лишь наиболее существенные, имеющие доминирующее значение для всестороннего развития школьника. Эти основные виды, формы деятельности и методы их организации показаны в систематизированном виде, применительно к условиям школы, которая должна в комплексе решать сложные задачи организации единого учебно-воспитательного процесса в связи с имеющимся свободным от учебы временем учащихся в субботу.

При организации свободного от учебы времени учащихся необходимо предусматривать тщательное и многоплановое сочетание педагогического руководства внеурочной деятельностью детей и подростков с их саморегуляцией и самоорганизацией, что, в свою очередь, требует глубокой и максимально всесторонней разработки всех основных видов и форм образовательной, общественно-организационной, трудовой, эстетической и спортивно-туристической деятельности учащихся с учетом их половозрастных особенностей и специфики городской и сельской школы.

Субботний день является органичной частью целостной учебно-воспитательной системы школы, и его организация должна отражаться во всех видах планирования. Создавая вариативные и авторские модели субботнего дня, необходимо ориентироваться на те инварианты, которые заданы Концепцией и Программой воспитания детей и учащейся молодежи в Республике Беларусь.

Организационно-содержательная работа в шестой день недели обязательно должна планироваться с участием учащихся и их родителей.

Воспитательные функции в шестой день учебной недели призваны выполнять все педагогические работники школы. За координацию, моделирование и контроль воспитательной работы отвечают заместители директора школы.

В классном коллективе воспитательный процесс организуют классный руководитель, учитель-предметник при непосредственном участии социального педагога и педагога-психолога. В центре воспитательной работы школы находится классный руководитель, который моделирует, организует и стимулирует развитие и саморазвитие личности учащегося.

Воспитательная работа в шестой день недели предусматривает определенное соотношение целей, содержания, форм, методов и результатов воспитательного взаимодействия.

Работа классного руководителя по организации воспитания строится на основе **программы воспитания** учреждения образования, тенденций или системы воспитательного процесса на основе личностно-ориентированного подхода с учетом актуальных задач, стоящих перед педагогическим коллективом школы и классным коллективом.

Организационная работа классного руководителя должна быть отражена в **плане** воспитательной работы, определяющем содержательные ориентиры деятельности, ее порядок, объем, временные границы.

Требования к плану:

1. Каждое дело, действие должны способствовать поставленной задаче.

2. Ориентация на реализацию потребностей и интересов детей, на их развитие.

3. План должен быть результатом совместного творчества педагогов, учащихся, родителей.

4. Ориентация на комплексный характер планов, что предполагает:

- отражение в них приоритетных направлений воспитания учащихся;
- разнообразие содержания и форм работы, направленных на развитие интересов и способностей детей;
- комплексное влияние на сознание, чувства, поведение детей с приоритетом внутренней активности самой личности;
- включение школьников в различные виды деятельности, в работу кружков, секций и т.д.

5. Разумная насыщенность плана, которая должна предоставлять детям свободное время для удовлетворения потребностей в игре, развлечении с ориентацией на формирование умений учащихся организовать свой досуг.

В центре организации воспитательной работы должны находиться четыре главных **направления**.

Первое связано с непосредственным взаимодействием с учеником:

◆ изучение индивидуальных особенностей его развития, интересов, жизненных навыков;

◆ программирование воспитательного воздействия;

◆ реализация комплекса методов и форм индивидуальной работы;

◆ включение детей в различные виды деятельности по интересам в рамках имеющихся в школе кружков, секций, клубов, научных обществ, трудовых объединений;

◆ анализ эффективности воспитательных воздействий.

Второе направление связано с созданием воспитывающей среды:

◆ сплочение детского коллектива;

◆ формирование благоприятной эмоциональной атмосферы;

◆ включение детей в различные виды социально активной деятельности;

◆ развитие детского самоуправления;

◆ деятельность детских и молодежных организаций.

Третье направление предполагает коррекцию и координацию различных воспитательных влияний в социуме:

◆ работа с семьей, привлечение родителей к воспитательной работе в субботний день;

◆ коррекция воздействий средств массовой коммуникации;

◆ нейтрализация негативных воздействий социума;

◆ взаимодействие с культурными и другими образовательными учреждениями.

Четвертое - укрепление нравственного и психофизического здоровья:

◆ медико-санитарное просвещение;

◆ физкультурно-оздоровительные занятия;

◆ спортивно-массовая работа;

◆ работа по профилактике вредных привычек, утверждение здорового образа жизни.

Важной для школ формой медико-санитарного просвещения и пропаганды спорта является лекторий "Здоровье". В его задачу входит проведение лекций, бесед, конференций, диспутов, докладов; организация встреч с учеными, врачами, спортсменами; оформление различных видов наглядной агитации (бюллетени, стенды, специальные выпуски, "молнии" и т.п.).

Наиболее распространенной формой спортивной деятельности во внеурочное время являются соревнования. Опыт показывает, что при наличии хорошего спортивного комплекса в школе вполне возможно провести в течение года соревнования по 10-15 видам спорта.

К числу эффективных форм спортивно-массовой внеурочной деятельности относятся спартакиады, соревнования, физкультурные праздники, вечера и встречи, конкурсы, туристские походы, путешествия, слеты, игры на местности, полуспортивные и подвижные игры.

Среди видов спорта интересны: авиамодельный, автомобильный, водно-моторный, военно-прикладные многоборья, радиоспорт, спортивное ориентирование, ракетомодельный, судомодельный, пожарно-прикладной спорт и многие другие виды.

Школы совместно с центрами физического воспитания и спорта, центрами детского творчества должны планировать и проводить спортивно-массовые и физкультурно-оздоровительные мероприятия. В перечень мероприятий могут входить Дни здоровья, спорта и туризма; физкультурные праздники "Зимние забавы", "День метателя", "День лыжника", "Спортландия", "День бегуна", "Если хочешь - будь здоров", "День прыгуна", "Папа, мама, я - спортивная семья" и др.; спортивно-познавательные конкурсы и викторины "Как сохранить здоровье", "Знаешь ли ты спорт?", "Олимпийские игры не только для олимпийцев" и др.; спортивно-массовые соревнования по видам спорта, входящим в программу внутришкольной спартакиады (легкая атлетика, волейбол, баскетбол, футбол, гандбол, настольный теннис, плавание, кросс), многоборье допризывника, соревнования по комплексу "Защитник Отечества", соревнования смотра уровня физической подготовленности "Олимпийские надежды Беларуси" и др.

Задача школ - находить оптимальные сочетания форм воспитания, запросов и интересов учащихся.

В школьной практике используются следующие различные формы воспитательной работы: фронтальные и массовые; объединения клубного типа с разветвленной системой подразделений; групповые или кружковые формы работы по интересам; индивидуальные.

В зависимости от характера воспитательного воздействия эти формы подразделяются на группы: словесные (информационный час, собрание, лекция, доклад, диспут, беседа и т.п.); практические (трудовые объединения и спортивные команды, спартакиады, олимпиады и конкурсы); наглядно-иллюстративные и поисково-исследовательские (объединения патриотического, научно-технического, эстетического, экологического характера с элементами творческой деятельности).

В школах в этот день могут активно использоваться традиционные и новые формы воспитательной работы старшеклассников: информационный час, устный журнал, вечер вопросов и ответов, встреча за "круглым столом", смотры на лучшую беседу, работа пресс-центра, лекторской группы и агитбригад, диспут и конференция, семинар.

Во внеурочной работе школ могут быть использованы разнообразные формы патриотического и интернационального воспитания: работа клубов интернациональной дружбы, проведение тематических вечеров, посвященных миротворческой деятельности, вечеров дружбы и солидарности с молодежью других стран; организация интернациональных праздников, выставок; конкурсы на лучший рисунок, фотоснимок, рассказ; переписка и налаживание различных видов связи с юными друзьями дальнего и ближнего зарубежья; изучение жизни и деятельности замечательных людей.

Морально-нравственное воспитание школьников осуществляется в ходе выполнения постоянных общественных поручений, участия в различных видах общественной работы, особенно в ходе милосерднической, волонтерской деятельности, оказания конкретной помощи тем, кто в ней нуждается.

Система форм общественно-организационной деятельности дает возможность школьникам почувствовать себя подлинными хозяевами в школе, ответственными за дела общественного коллектива, побывать в роли организаторов, руководителей, воспитателей, шефов.

Особенно значима в шестой день недели деятельность клубных объединений в школе. Учащиеся приходят на занятия по внутреннему побуждению, добровольно, что означает их готовность принимать установленные правила, нормы, требования, у них вырабатывается установка не только на воспитание, но и на самовоспитание. В добровольных клубных объединениях ребята достигают определенных технических, эстетических, спортивных и других результатов, растут людьми трудолюбивыми, целеустремленными, организованными.

Жизнь детей в этот день должна быть насыщена интересными видами деятельности. К работе с детьми должны привлекаться специалисты, чтобы работа не представляла собой мелочную опеку детей.

Основной целью перехода на 5-дневную учебную неделю должна стать разгрузка учащихся, сохранение их здоровья, создание условий для реализации их творческих и интеллектуальных способностей. Поэтому детям и их родителям должно быть предоставлено право использовать свободный от учебных занятий день по их усмотрению.

Необходимо предусмотреть возможность (по желанию учащегося) пребывания его в этот день во внешкольном учреждении, а также вариант освобождения по объективным причинам от посещения этих занятий по просьбе учащегося и его родителей.

В связи с этим необходимы определенный учет посещаемости учащимися учреждений воспитания и образования в шестой день недели, согласованные действия администрации школы, внешкольных учреждений и родителей.

Каждый классный руководитель должен иметь полные данные о родителях учащихся, о возможностях совместного сотрудничества в эти дни, чем родители могут помочь в организации и проведении воспитательной работы. И, самое главное, следует психологически подготовить родителей к необходимости посещения детьми школы в субботу, за счет качественного наполнения этого дня убедить их в полезности всей работы по развитию важнейших личностных качеств их ребенка.

Выбор классным руководителем ведущих видов воспитательной деятельности, оптимальных технологий, форм, методов и средств воспитания определяется возрастными особенностями учащихся.

Так, в **начальной школе** одним из важнейших направлений является работа учителя с семьей. Именно на начальной ступени образования существуют условия и необходимость в тесном взаимодействии с родителями в воспитании ребенка. Содержание воспитательного взаимодействия определятся направленностью на интересы ребенка на формирование общих подходов к воспитанию, совместное изучение личности ребенка, его психофизических особенностей, выработку близких по сути педагогических требований, организацию помощи и поддержки в обучении, физическом и духовном развитии воспитанника. Учитель привлекает к участию в воспитательном процессе школы, а также организует работу по повышению психолого-педагогической культуры родителей через проведение родительских собраний, совместную деятельность.

В организации воспитательной работы шестого дня учебной недели с учащимися **базовой школы** следует учитывать характерное для этого возраста стремление к самовыражению, поиску своей индивидуальности. Наиболее благоприятные условия для развития творческого, практического потенциала личности ученика могут быть созданы при организации кружковой, клубной работы, проведении деловых и ролевых игр, презентация которых входит в круг воспитательных функций классного руководителя и педагога-предметника. Формированию социального опыта учащихся во многом способствует вовлечение их в анализ жизненных (нравственных) проблемных ситуаций, возникающих в жизни учебного заведения, в деятельность самоуправления, общественных детских и молодежных организаций или представленных в средствах массовой информации.

Приоритетом в выборе видов, технологий, форм, методов и средств воспитательной деятельности в шестой день учебной недели должны служить ориентиры, обозначенные в Концепции и Программе воспитания детей и учащейся молодежи в Республике Беларусь.

Таким образом, планирование воспитательной работы на субботние дни - это своеобразный свод расписаний, графиков, планов, в которых должна быть учтена специфика каждой формы работы, определена мера их использования, соблюдены пропорции между занятиями по всем направлениям. Планирование отдельных форм занятий не дает возможности распределить правильно и целесообразно время досуга между различными видами деятельности. Только при сведении их воедино с учетом всех возможностей социума, внешкольных учреждений возможно определить пропорции, найти правильное отношение между ними.



Сяргей Наздрын і Алена Чуркіна шмат гадоў танцавалі ў пары, займаючыся харэаграфіяй у Магілёўскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Рупо". Паспяхова складваецца кар'ера ў Сяргея. Яго нядаўна запрасілі танцаваць у вядомы шоу-балет "Тодас".

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

# Мы разумнейшыя, але перамагаюць іншыя. Чаму?

***Агульнавядома, што наша сістэма адукацыі, асабліва сярэдняе яе звяно, лічыцца адной з лепшых у свеце. Але нельга адмаўляць і тое, што выпускнікі заходніх школ, нягледзячы на слабейшую падрыхтоўку, часта аказваюцца больш здольнымі рэалізаваць усё тое, што яны атрымалі ў школьных сценах і, у выніку, больш паспяховымі ў далейшым жыцці. Чаму так атрымліваецца? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да дэкана псіхалагічнага факультэта Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, доктара псіхалагічных навук Уладзіміра Аляксандравіча ЯНЧУКА.***

**- Уладзімір Аляксандравіч, можа, справа ў выхаванні?..**

- Мы ганарымся сваёй сістэмай адукацыі, часта чуем, што нашы выпускнікі адпавядаюць самым высокім стандартам, але разам з тым кожны з нас ведае амерыканскі жарт: "калі ты такі разумны, дык чаму ты такі бедны?"Апошнім часам я ўсё больш разумею, як моцна сістэма адукацыі адлюстроўвае сітуацыю ў грамадстве. Хочам мы таго ці не, яна ўпітвае ў сябе нарматывы, рэгулятары, што нябачна прысутнічаюць у жыцці, асаблівасці ўзаемаадносін, якія, як гэта ні сумна, характэрныя для таталітарнага грамадства. Мы - дзеці таталітарызму, і гэта пранізвае ўсю сістэму адукацыі.

Адзін з істотных яго момантаў - адсутнасць ініцыятывы знізу. Ёсць кіраўнік і падначаленыя. Усе рашэнні кіраўніка - апрыёры мудрыя, павінны ўспрымацца на веру і рэалізоўвацца без асаблівай крытыкі. Вось такая немудрагелістая схема.

І калі я параўноўваю, дапусцім, англійскага школьніка з нашым, дык бачу, што нашаму дзіцяці неабходны інструкцыі, указанні і г.д. Англійскаму яны не патрэбны, яно самастойнае. І гэта вельмі важны кампанент дэмакратычнага грамадства. Я не прыхільнік вынясення ацэнак: што лепш, а што горш. Але гэтая самастойнасць, апора на ўласныя сілы, цвярозая самаацэнка ўяўляюць сабою адно з найбольш істотных адрозненняў заходняй сістэмы адукацыі ад нашай.

Мне даводзілася выкладаць у заходніх універсітэтах, прымаць экзамены ў тамашніх аспірантаў, і я магу параўноўваць Тут мне трэба бегаць за студэнтам альбо аспірантам, неяк матываваць іх на тое, каб яны здавалі прадмет, кантраляваць іх. Там я не раблю ніякіх намаганняў у гэтым сэнсе. Не я бегаю за студэнтамі, а яны за мною, не я іх кантралюю, а яны мяне. Таму што там вучацца не для атрымання дыплома, а для таго, каб мець кваліфікацыю, і добра разумеюць, што тыя веды, якія яны набудуць, спатрэбяцца ім у жыцці, больш за тое - забяспечаць ім выжыванне ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі.

І яшчэ адзін істотны момант, які мне кінуўся ў вочы, - гэта цвярозая ацэнка сваіх рэсурсаў. Праблемы конкурсаў у ВНУ, з якой мы сутыкаемся дома, на Захадзе проста не існуе. Чаму? Бо перад паступленнем у ВНУ кожны замежны выпускнік спачатку задасць сабе самому шэраг пытанняў: а ці трэба мне гэты універсітэт? ці "пацягну" я? ці хопіць у мяне рэсурсаў? І зноў жа: а ці дасць мне гэта штосьці? У рэшце рэшт: ці хопіць у мяне сродкаў? І - абавязкова прысутнічае ацэнка працоўнага рынку. Такіх масавых кампаній: усе станем юрыстамі, эканамістамі альбо, як сёння, псіхолагамі - там ніколі не было. Таму што бацькі там абавязкова пралічваюць кан'юнктуру рынку на 8 гадоў уперад і, вызначаючы нейкую навучальную ўстанову для свайго дзіцяці, перш за ўсё вызначаюць нішу для яго. І гэтыя рысы - жыццё па сродках, беражлівыя адносіны да фінансаў - пранізваюць усю культуру грамадства. У нас жа штурмуюць ліцэі, ВНУ, нават не задумваючыся аб тым, ці патрэбны гэтыя спецыялісты, ці будуць яны запатрабаваны на працоўным рынку праз колькі гадоў.

**- Вы гаворыце аб таталітарызме, атрыманым у спадчыну ад ранейшых часоў. Напэўна, трэба ўдакладніць, што гэты таталітарызм - міжвольны, прычым сядзіць ён у кожнага з нас у самай глыбіні душы, таму так цяжка ад яго пазбавіцца. Але пазбаўляцца трэба, бо мы перадаем стыль такіх узаемаадносін дзецям...**

- Прычым гэтая перадача нябачная. Гэта ўзаеміны паміж людзьмі: кіраўнік-падначалены, прадавец-пакупнік, чыноўнік-грамадзянін, настаўнік-вучань... Але калі ў традыцыйнай школе паспрабаваць паступова, крок за крокам, пачаць рэалізоўваць дэмакратычную сістэму, паявіцца іншая сістэма ўзаемаадносін. Замест сістэмы "мудры настаўнік-вучань" можна паспрабаваць наладзіць дыялог, удзельнікі якога роўныя... Гэта намнога складаней для настаўніка, канешне...

Я сам дзіця таталітарызму, я вырас у такім асяроддзі. Крыўдзіцца на гэта няма сэнсу, трэба развіваць дэмакратычны стыль. Але не рэвалюцыйным шляхам. Дэмакратыя пачынаецца з моманту, калі я раблю вучня самастойным, калі заахвочваю свабоду і актыўнасць. Гэта цяжка. Але калі яно спалучаецца з пачуццём адказнасці - за сябе і за тое, што адбываецца вакол, - то прыносіць цудоўныя вынікі. І ад школы тут залежыць вельмі многае.

**- Ісці паступова, крок за крокам... Гэта - надоўга?**

- Неабавязкова. Раней была такая ілюзія: для таго каб змяніцца, павінна прыйсці другое пакаленне. Гэта няпраўда, можна мяняцца вельмі хутка. Паглядзіце на бабульку-пенсіянерку, што стаіць на рынку. Калі б вы сказалі ёй гадоў дзесяць назад, што яна будзе такой - яна б ніколі вам не паверыла. Але ж вось стала, прыстасавалася да іншых умоў. Я разумею, гэта не ад добрага жыцця. Але, тым не менш, сёння ў яе ўжо іншая ментальнасць. Так што памяняцца можна даволі хутка. Але для гэтага павінны быць распрацаваны новыя правілы гульні. Павінна заахвочвацца ініцыятыва, актыўнасць, самастойнасць.

**- На адной з канферэнцый вы сказалі, што ў нашых школьнікаў і студэнтаў ведаў намнога больш, але заходнія - лепш умеюць выкарыстоўваць свае веды.**

- Так, гаворку трэба весці і аб каэфіцыенце карыснага дзеяння. Па ідэі, чым больш ведаў прапанаваць студэнту, тым быццам бы лепш. Але гэта толькі знешне так. Таму што нашпігоўванне вялікай колькасцю інфармацыі ставіць даволі складанае пытанне: а ці магу я актуалізаваць гэтыя веды? Часта ў студэнтаў пасля здачы экзамену яны сыходзяць на перыферыю і ўжо не прысутнічаюць у актыўным вопыце. Тое ж тычыцца і сярэдняй адукацыі. Зразумела, навука не стаіць на месцы. Але, з другога боку, паўстае пытанне: ці патрэбны гэтыя веды на ўзроўні ўсенавуча? Спецыялісту - так, у профільных класах - так, у ліцэі - так. А на ўзроўні звычайнай сярэдняй школы - не заўсёды. Мне бачыцца як асноўная задача - сфарміраваць нейкія мінімальныя веды, уяўленні аб сабе і навакольным свеце, якія дазваляюць чалавеку зразумець, як абудаваны свет, якія заканамернасці ў ім прысутнічаюць, і адказаць на тыя пытанні, з якімі чалавек сутыкаецца ў сваёй паўсядзённай практыцы. Я разумею, што не ўсе веды можна прагматызаваць. Але калі мы "ўпісваем" іх у паўсядзённы вопыт, калі ствараем у чалавека адчуванне прагматычнага эфекту ведаў, яны "счэпліваюцца" з практыкай і становяцца актуальнымі. Чалавек пачынае іх рэалізоўваць.

І яшчэ адзін важны момант, на мой погляд, вельмі істотны. Ён тычыцца самастойнай работы вучняў. Зразумела, многія нашы праблемы - ад беднасці. Але ж усё ўвапхнуць у памяць нельга, у тым ліку на ўзроўні ВНУ. На Захадзе выкарыстоўваюць мінімальную колькасць лекцый, і яны носяць чыста арыенціровачны характар. Астатняе - кнігі, камп'ютэры, базы даных, задачы для самастойнай работы. Студэнты самастойна авалодваюць ведамі і атрымліваюць па меры неабходнасці індывідуальныя кансультацыі ў выкладчыкаў. Канешне, для таго, каб рэалізаваць падобную практыку, ВНУ павінна мець велізарную бібліятэку, школа - усемагчымыя падручнікі і дапаможнікі, якія толькі існуюць. Яны павінны мець доступ да камп'ютэра, і не проста камп'ютэра, а падключанага да Інтэрнет-сеткі. І зноў жа, не проста да сеткі - а ў ёй павінны быць вучэбныя базы даных... Такая стратэгія, калі педагог арыентуе вучня, дае яму сродкі самастойнага знаходжання ведаў і ўзброівае магчымасцямі іх аналізу, намнога эфектыўней. Вучань знойдзе сам намнога больш, чым яму можа даць настаўнік. Функцыя ж апошняга: дапамагчы, зарыентаваць, растлумачыць - і пусціць у самастойнае плаванне. Тады гэтае дзіця намнога больш будзе прыставаным да зменлівых умоў жыцця.

**- Я зноў да выхавання... Дзесьці я чытала, што калі ўзяць інтэлект і характар, дык намнога важней, каб быў сфарміраваны якраз-такі характар. Тады нават пры адносна нізкім інтэлекце чалавек будзе больш паспяховым у жыцці, чым яго вельмі разумны, але недастаткова актыўны сусед.**

- Так, нават калі чалавек менш разумны, але больш актыўны - ён даб'ецца большага. І заходняя адукацыйная сістэма арыентавана, хутчэй за ўсё, на гэта. Але трэба падкрэсліць, што заходняя сістэма з'яўляецца прадуктам заходняй культуры. Я не гавару зараз аб тым, што мы культурна адстаем, я аб іншым. Там - культура жорсткіх адносінаў. Там ніхто не будзе выкідваць грошы на вецер, у тым ліку на непатрэбную адукацыю. Альтруізм - таксама заўсёды добра разлічаны. Мы - шырэй. Вось чаму мне не хочацца жыць на Захадзе. Там няма такіх адкрытых чалавечых адносінаў. Сустрэчы дзяцей з бацькамі - у дакладна агавораны час, пару дзён на канікулах, фіксаваныя даты.... Я не гавару зараз, добра гэта ці дрэнна. З нашага пункту гледжання - дрэнна. Бацькі ў доме састарэлых - для нас гэта дзікунства, для амерыканцаў - норма. Гэта проста розная ментальнасць. Там кожны чалавек - індывідуаліст. Але адначасова я ўсведамляю, што гэты індывідуаліст больш прыстасаваны да зменлівых умоў жыцця. А мы - менш. Факт застаецца фактам... Там ідзе ўстаноўка на актыўную пазіцыю ў жыцці, прычым з ранняга дзяцінства. У той жа Вялікабрытаніі пяцігадовае дзіця самастойна можа пайсці ў краму, яго без ваганняў пакідаюць аднаго дома. А пасля школы малады чалавек ужо поўнасцю, па ўсіх пунктах, самастойны.

**Гутарыла Святлана СУБОЦІНА.**

# Пра Бандароўну і сёння спяваюць

## (Урок беларускай літаратуры ў 8 класе)

*Каб навучыцца прыёмам і спосабам аналізу мастацкага твора; выяўляць фальклорна-рамантычную аснову паэмы; раскрываць сутнасць сацыяльнага канфлікту ў творы; выпрацоўваць уменне адстойваць сваю пазіцыю; выхоўваць беражлівыя адносіны да роднага беларускага слова, трэба шукаць новыя падыходы ў вывучэнні беларускай класікі. Сёння на старонцы "Педагагічнай майстэрні" прапаную вашай увазе урок, прысвечаны паэме Я.Купалы "Бандароўна".*

*Для больш эфектыўнага ўспрыняцца паэмы раю выкарыстаць грамзапіс твора ў выкананні артыстаў М.Захарэвіч і В.Тарасава, партрэт Я. Купалы, ілюстрацыі, карткі-заданні для работы ў групах.*

**Эпіграф.**

А чаго ж, чаго захацелася ім?..

- Людзьмі звацца.

**Я.Купала**

Лепш вока страціць,чым добрае імя.

**З народнага**

"Я. Купала - паэт шырокіх мастацкіх арыентацый. Ён добра ведаў не толькі беларускую, але рускую, украінскую і польскую літаратуры. Сюжэты для сваіх твораў браў з рэчаіснасці, з паданняў, легенд, песень. Напрыклад, на народнай песеннай аснове Я.Купала стварыў такія цудоўныя паэмы, як "Магіла льва", "Бандароўна". Народны пясняр гаварыў: "Украінскую літаратуру люблю". Тлумачыцца гэта, я думаю, аднолькавым сацыяльным і нацыянальным становішчам беларускага і ўкраінскага народаў у мінулым. У 1913 годзе па матывах украінскай песні ён напісаў славутую "Бандароўну", - пачынае ўрок адзін з вучняў.

Потым другі працягвае:

- Трэба мець на ўвазе, што на Украіне і Беларусі існавала некалькі варыянтаў песень пра Бандароўну. Аб гэтым сведчаць фальклорныя запісы, зробленыя вядомым фалькларыстам і этнографам П.В.Шэйнам.

Дзеянне адбываецца то ў Брэсце, то ў безназоўным мястэчку, то проста дзесьці "за гарою". Цікава, што ў кожнай мясціне лютага пана называлі па рознаму - Чарнецкі, Канеўскі, Канюшын, пан-палкоўнік. Шматлікія варыянты песень пра Бандароўну - сведчанне яе вялікай папулярнасці ў нашым краі. Пра Бандароўну і цяпер спяваюць.

Праслухоўваецца беларуская народная песня пра Бандароўну, запісаная ў в.Замошша Барысаўскага р-на (тэкст песні змешчаны ў час. "Роднае слова" №1 за 2000 г., с.49)

- У тэксце сказана:

Засталася ў народзе
Песня здавен-даўна.

Калі гэта было "давен-даўна"?

Праблема часу заўсёды была і застаецца актуальнай у кожным мастацкім творы. Вядома, што паэма была напісана ў 1913 г., надрукавана ўпершыню ў газеце "Наша ніва". Але тое далёкае мінулае ў творы зусім не нагадвае гэты перыяд.

(Даецца гістарычная даведка).

Сваім зместам паэма звернута да даўніх часоў - у XV-XVII стагоддзе. Гэта быў час, калі беларускія і ўкраінскія народы знаходзіліся пад уладай польскіх паноў. Пасля Люблінскай уніі (1569г.) польскія магнаты і каталіцкая царква рынуліся на Беларусь і Украіну. Яны захоплівалі лепшыя землі, зневажалі і эксплуатавалі народ. Працоўныя масы ў той змрочны час былі пазбаўлены ўсякіх правоў, цярпелі феадальны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт. Але яны не скарыліся, вялі ўпартую і працяглую барацьбу з іншаземнымі захопнікамі за сваю волю і незалежнасць.

Далей прапануецца работа ў групах.

Кожная група атрымлівае картку з заданнямі і паштоўку з ілюстрацыяй да паэмы, да якой павінна падабраць адпаведную цытату з тэксту. У кожнай групе ёсць кансультант, які вядзе ўлік ведаў, а ў канцы кожная група выстаўляе самаацэнку ў залікованы ліст усім членам групы. Для прыкладу магу прывесці некалькі варыянтаў заданняў у картках.

**Картка №1**

1. Кузьма Чорны пра творчасць Янкі Купалы гаварыў: "У гэтыя гады паэт усё часцей і часцей звяртаецца да народных паданняў, легенд і казак. Ён думае аб гераічным мінулым свайго народа, аб яго змаганні, сіле. Можа, ніколі, як цяпер, у творчасці аўтара выступае з вялікай сілай матыў нянавісці паміж простым чалавекам і панам, матыў панскага здзеку з мужыка. Выдатная "Бандароўна" з'явілася як слова вялікага гневу".

**Заданне.**

1. Пацвердзіць словы К.Чорнага купалаўскім тэкстам паэмы "Бандароўна".

2.Чаму не ўдалося ўсемагутнаму магнату скарыць гордую дзяўчыну?

3. Хто і чаму перамог у гэтым паядынку?

4. Падабраць цытату да малюнка.

**Картка №2**

1.У аснову паэмы пакладзены фальклорныя матывы. Дакажыце, што гэта так.

2.Адкуль у пана Патоцкага ўпэўненасць, што Бандароўна скарыцца яму? (дакажыце тэкстам).

3. Падбярыце цытату да малюнка.

**Картка №3**

1. Дакажыце, што сіла і веліч Бандароўны ў непарыўнай сувязі з народам.

(прывядзіце цытаты).

2.Чаму пан загадвае наладзіць Бандароўне пышнае пахаванне? 3.Падабраць цытату да малюнка.

**Картка №4**

1. Прачытаць па ролях паядынак Бандароўны і пана Патоцкага.

2. Якія рысы характару падкрэслівае ў гэтым паядынку ў Бандароўны і пана Патоцкага аўтар?

3.Падбярыце цытату да малюнка.

**Картка №5**

1. Які канфлікт пакладзены ў аснову паэмы: побытавы, класавы, асабісты, сацыяльны?

2. Дзе адбываюцца падзеі, апісаныя ў паэме "Бандароўна"? Дакажыце тэкстам.

3. Як адпомсціў за смерць дачкі Бандарэнка? Зачытайце цытату.

4. Падабраць цытату да малюнка.

Заліковы ліст групы 3.
Прозвішча вучня
Адзнакі

**Дадатковыя заданні**

Пытанні, па якіх праводзіцца праверка работы ў групах.

1. У аснову паэмы пакладзены фальклорныя матывы. Дакажыце тэкстам, што гэта так.

2.Які канфлікт пакладзены ў аснову паэмы: побытавы, класавы, асабісты, сацыяльны?

3. Дзе адбываюцца падзеі, апісаныя ў паэме?

З дзённіка пісьменніка Алеся Ганчара:

На Украіне вядома шмат песень пра Бандароўну, пра дачку бондара Бандарэнкі. (Прозвішча Бандарэнка ў Сарочынцах - даволі распаўсюджанае). І хоць існуе шмат варыянтаў песень, але сюжэт іх амаль аднолькавы.

Была дзяўчына-прыгажуня Бандароўна, на якую кінуў вока пан. Ён бессаромна лез да яе, а тая ляснула яго па твары. Панскія слугі схапілі дзяўчыну. Яе білі, здзекаваліся. Гэтыя пакуты гордай, смелай Бандароўны сталі песняй.

Магчыма, гэтая песня ўзнікла ў Сарочынцах. Менавіта сарочынцы заўсёды былі непакорнымі і ў рэвалюцыю 1905 г., і ў 1917 г., і ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Гордасцю і прыкладам для сарочынскай моладзі сталі Андрэй Чумак, якога пакаралі японскія інтэрвенты, франтавік Бандарэнка, які першы прынёс вестку аб рэвалюцыі. А ў гады Айчыннай вайны эстафету прыняла жанчына, Вольга Антонаўна Бандарэнка - Бандароўна новага часу.

Гэтую адважную партызанку тут ведаюць і старыя, і малыя. Тройчы расстраленая - так яе называюць. Сапраўды, яе тройчы расстрэльвалі ворагі, і гэта ўсё адбывалася тут, у Вялікіх Сарочынцах.

Перад вайной яна была звеннявой, а потым старшынёй сельсавета. У народзе памятаюць, што яна любіла свайго адзінага сына, на кані вярхом ездзіла, людзей паважала... А да ворагаў была непрымірымая. З тых, каго нічым не спалохаеш. З першых дзён вайны - яна партызанская сувязная.

... У той дзень эсэсаўцы прыгналі да крутога абрыву ракі актывістаў сяла. Сярод іх была і Вольга Антонаўна Бандарэнка. Побач - царква, у якой бралі шлюб бацькі М.В.Гогаля, дзе зроблены запіс аб нараджэнні пісьменніка. Бясцэнны гістарычны помнік быў расстраляны кулямі захопнікаў. Унізе цячэ рака Псел, якая ў дзень расправы стала чырвонай ад крыві расстраляных. Кучай ляжалі трупы, а Бандароўну, відаць, ажывіла вада роднай ракі. Уначы яна прыйшла дадому.

І ў другі раз лёс дараваў ёй жыццё. Яе расстрэльвалі цяпер разам з сынам. Зрашэчаная кулямі, яна цудам засталася жыць. Фашысцкі свінец не мог пазбавіць яе жыцця. Цяжка параненая, жанчына прыцягнулася дадому. Адкуль яна брала сілы? Адкуль гэтая казачная жыццястойкасць?

Праз шмат гадоў, калі судзілі аднаго забойцу, ён прызнаўся, што адчуваў прымхлівы страх перад гэтай жанчынай, калі пасля расстрэлу на могілках зноў убачыў яе жывой. Яна была ўся ў крыві, а на твары быў гнеў і нянавісць. Яна крыкнула: "Зноў за мной прыйшоў, гад!". Забойцу ў тую хвіліну здалося, што перад ім здань, якую нельга забіць. Дрыжачай рукой ён разрадзіў у яе ўсю абойму, дый і тады не верыў, што яна забіта.

Але і сёння яна жывая. Пры ўездзе ў Вялікія Сарочынцы на п'едэстале ўзвышаецца яе постаць. І кожны, хто ідзе або едзе па гэтай дарозе, міжволі адчуе яе гордасць, высакароднасць, яна стала сімвалам бессмяротнасці народа.

4.Адкуль у пана Патоцкага ўпэўненасць, што Бандароўна скарыцца яму?

5.Прачытаць па ролях паядынак Бандароўны і пана Патоцкага

(тэатралізаванае выступленне).

6.Чаму не ўдалося ўсемагутнаму пану скарыць дзяўчыну?

7. Якія рысы характару Бандароўны падкрэслівае паэт?

8. Хто і чаму перамог у гэтым паядынку?

9. Чаму пан загадвае наладзіць Бандароўне пышнае пахаванне?

10. К.Чорны сказаў: "Выдатная "Бандароўна" з'явілася як слова вялікага Гневу". Пацвердзіце словы К.Чорнага купалаўскім тэкстам паэмы "Бандароўна".

11. Як адпомсціў за смерць дачкі Бандарэнка?

12. Падпісаць паштоўкі цытатамі.

- Праслухайце грамзапіс X ч.

Дайце загаловак гэтай часткі.

- Якія пачуцці выклікае ў вас лёс Бандароўны?

- А ці ёсць у паэме старонкі, якія выклікаюць у вас радасць, захапленне гераіняй? (Чыт. на памяць II р.)

- Ці мае значэнне паэма для сучаснікаў?

(Паэма вучыць змагацца за сваю незалежнасць, не губляць гонару, умець паважаць сябе, захоўваць сваю годнасць, самапавагу. Дзяўчынкам трэба памятаць, што гонар дзяўчыны - гэта павага да яе жаночай годнасці. Памятайце народнае: "Лепш вока страціць, чым добрае імя". Чалавек не павінен траціць веру ў тое, што ён - Чалавек).

- Якія ўражанні пакінула ў вас паэма? (Пры наяўнасці часу можна пісьмова).

- Чаму навучыў вас гэты ўрок?

- Якое дачыненне да тэмы ўрока мае эпіграф?

Дамашняе заданне:

Падабраць цытаты да вобраза Бандароўны.

Слоўнік: "хеўраю лядачай". Хеўра - скопішча, зграя, гурт, зброднм, навала, натоўп, групоўка. Лядачая - у сэнсе жорсткая, лютая, грозная, разбойная, сярдзітая, разгульная.

**Антаніна ГАРЧАКОВА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №3 Вілейкі,**
**выдатнік народнай асветы.**



Выкладчык Мінскага харэаграфічнага каледжа народная артыстка Беларусі, заслужаная артыстка Расіі Клара Малышава і японская студэнтка Такако Абаяшы на ўроку класічнага танца. Пяць навучэнцаў розных танцавальных школ Японіі прайшлі стажыроўку ў Мінскім харэаграфічным каледжы. Такія балетныя туры па культурнаму абмену паміж Беларуссю і Японіяй праводзяцца з 1984 года.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

# Мадэль мультыпрофілю набывае прыхільнікаў

***У 2001-2002 навучальным годзе згодна з загадам Міністэрства адукацыі дзесяць гімназій і школ рэспублікі сталі эксперыментальнымі пляцоўкамі па апрабацыі мадэлі мультыпрофільнага навучання. Упершыню за яе апрабацыю ўзяліся педагогі два гады назад у гімназіі №1 Барысава. Іх напрацоўкі, а таксама вопыт мультыпрофільных школ Масквы, рэкамендацыі і індывідуальна-групавыя кансультацыі на базе Акадэміі паслядыпломнай адукацыі і Міністэрства адукацыі будуць выкарыстоўваць і іншыя навучальныя ўстановы.***

Змест мультыпрофілю заключаецца ў тым, што інварыянтная (абавязковая для ўсіх) частка навучання дапаўняецца больш шырокай - варыятыўнай. А класна-ўрочная форма заняткаў замяняецца групавой, што дапамагае школьнікам у самаразвіцці, самарэалізацыі і самавызначэнні. Пачынаючы з 10 класа, вучні самі выбіраюць агульнаадукацыйныя прадметы на неабходным ім узроўні - базавым, профільным або паглыбленым. Але такім чынам, каб не перавысіць максімальна дапушчальную санітарную норму вучэбнай тыднёвай нагрузкі.

Фактычна атрымліваецца - колькі ў класе старшакласнікаў, столькі будзе і індывідуальных планаў. А дзеці расфарміруюцца па зменных групах і кожны новы ўрок будуць займацца ў іншым складзе. На працягу навучання ў выключных выпадках, калі вучань пераацаніў свае магчымасці па прадмеце або недаацаніў іх, ён можа выбраць іншы, адэкватны сваім патрабаванням узровень.

Такім чынам, старшакласнікі на занятках у школе могуць вывучаць на паглыбленым узроўні некалькі прадметаў розных профіляў. Напрыклад, гісторыю і матэматыку ці фізіку і мову, якія некаторым прыйдзецца здаваць у далейшым на ўступных экзаменах. Усе астатнія прадметы кожны павінен вывучаць як мінімум базавую колькасць гадзін.

Зразумела, што агульныя палажэнні новага падыходу ў кожнай навучальнай установе будуць прыменены па-свойму. З будучага навучальнага года мадэль мультыпрофільнага навучання ўкараніцца ў мінскай гімназіі №130. Гэтая ўстанова адукацыі падрыхтавана да такіх змен: з індывідуальным падыходам вучні гімназіі знаёмы даўно. Па-першае, гімназія №130 вось ужо 28 гадоў мае музычна-харавы ўхіл. Па-другое, большасць гімназістаў пасля 9-га класа ставіць перад сабой задачу паступіць у ВНУ: яны выбіраюць сабе павышаны ўзровень падрыхтоўкі па прадметах, якія будуць здаваць на ўступных экзаменах.

Гэтаму дапамагаюць не толькі настаўнікі, некаторыя з якіх з'яўляюцца аўтарамі праграм, вучэбных і метадычных дапаможнікаў і выкарыстоўваюць на практыцы дасягненні педагагічнай і псіхалагічнай навукі. Вучобу ў гімназіі ў нейкім сэнсе можна параўнаць з курсамі падрыхтоўкі пры ВНУ, бо аўтарскія ўрокі тут чытаюць кандыдаты навук, дацэнты, аспіранты, выкладчыкі БДУ, БДПА, БДУІР, БДПУ імя М.Танка, Лінгвістычнага універсітэта, Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Акадэміі фізічнай культуры і спорту, Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, Нацыянальнай Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і некаторых іншых навучальных устаноў з улікам патрабаванняў на ўступных экзаменах. Многія гімназісты паступаюць у ВНУ па выніках алімпіяд для абітурыентаў, а таксама Рэспубліканскага цэнтралізаванага тэсціравання.

Пакуль жа старшакласнікі займаюцца па ранейшых праграмах спецкурсаў, бяруць дадатковыя да асноўных урокаў гадзіны. З будучага навучальнага года, дзякуючы ўкараненню мадэлі мультыпрофілю, уся нагрузка паглыбленага вывучэння прадметаў будзе перанесена на час асноўных заняткаў у гімназіі.

**Надзея СТРАБКОВА.**

Прававая адукацыя

# Хто і як выкраў Кая сярод белага дня ў разгар свята з люднай плошчы?

***Асноўная мэта гімназічнай адукацыі сёння - выхаванне грамадзянскасці, патрыятызму, адказнасці маладога чалавека за свае ўчынкі і справы перад грамадствам, перад людзьмі, з якімі ён сутыкаецца, і перад сабой, г.зн. адукацыя ў галіне права.***

***Фарміраванне грамадзяніна прававой дзяржавы прадугледжвае, па-першае, веданне ім сваіх правоў, свабод, абавязкаў, па-другое, наяўнасць пэўных навыкаў па практычнаму іх прымяненню і, па-трэцяе, чалавек, які ўступае ў дарослае жыццё, павінен ведаць не толькі свае правы, але паважаць і абараняць правы і інтарэсы іншых людзей.***

***На гэтых трох пазіцыях і грунтуецца адукацыя ў галіне правоў чалавека ў нашай навучальнай установе, якая ажыццяўляецца ў адпаведнасці з нацыянальным планам развіцця адукацыі ў галіне правоў чалавека на 1999-2004 гг.***

У гімназіі створана творчая група, якая распрацавала план рэалізацыі вывучэння правоў чалавека на вучэбны год.

Важным складальнікам гэтага плана з'яўляецца вывучэнне трох блокаў: правы чалавека, правы дзіцяці, міжнароднае гуманітарнае права.

Навучанне правам чалавека і асновам дэмакратыі пачынаецца ў першых класах з прадмета "Чалавек і свет" і працягваецца ў базавай школе, але сістэмнае вывучэнне правоў чалавека, асноў дэмакратыі і міжнароднага гуманітарнага права пачынаецца з 9 класа па праграме вучэбнага прадмета "Чалавек. Грамадства. Дзяржава". Далей яно працягваецца ў 11 класе.

Сёлета ў 11 класе ў рамках эксперыменту па навучанню правам чалавека намі было праведзена анкетаванне, дзе вучням прапанавалі адказаць на пытанні:

1.Ці лічыце вы актуальнай праблему правоў чалавека ў нашай краіне?

2.Як вы ацэньваеце пытанні, уключаныя ў вывучэнне тэмы "Правы чалавека як феномен сучаснай цывілізацыі"?

Усе вучні класа лічаць праблему актуальнай для нашага грамадства. "Многія людзі, - пішуць яны, - зусім не ведаюць сваіх правоў".

На другое пытанне 95 працэнтаў вучняў адказалі станоўча: "Мы павінны гэта ведаць і ўмець выкарыстоўваць свае веды ў жыцці", "Я лічу, што гэтыя пытанні вельмі важныя для разумення неабходнасці і важнасці правоў і свабод у жыцці чалавека і грамадства. Іх дастаткова для глыбокага вывучэння тэмы, а больш сур'ёзнае і дэталёвае вывучэнне павінна быць толькі на ўзроўні ВНУ".

Тры працэнты вучняў лічаць, што гэтыя пытанні можна вывучаць яшчэ больш паглыблена, чым прадугледжана праграмай.

Два працэнты адзінаццацікласнікаў адказалі, што вось такое паглыбленае вывучэнне правоў чалавека можна вывучаць па жаданню на спецкурсе, а не на ўроках.

Такім чынам, актуальнасць вывучэння правоў чалавека, асноў дэмакратыі, міжнароднага гуманітарнага права - для гімназістаў відавочная.

У выкладанні курса ёсць пэўныя цяжкасці ў пачатковай школе. Матэрыял - даволі незвычайны (складаны для ўспрымання маленькімі дзецьмі), таму настаўнікі імкнуцца праводзіць урокі ў нетрадыцыйнай форме, уключаючы гульнёвыя элементы, аналізуючы асобныя пытанні на прыкладах учынкаў літаратурных герояў і саміх дзяцей. Такія ўрокі, безумоўна, патрабуюць асаблівай падрыхтоўкі, але, як паказвае вопыт, яны вельмі цікавыя для вучняў.

У 3 "В" класе на ўроку І.В. Балюты "Права на абарону ад вымушанага перамяшчэння" дзеці ўспаміналі "Снежную каралеву" Андэрсена. Асабліва дэталёва - сцэну выкрадання Кая, якога "ўмыкнулі" сярод белага дня ў разгар дзіцячага свята з люднай плошчы. Трэцякласнікаў на ўроку вучылі гаварыць "не" падманлівым прапановам незнаёмцаў і праводзіць мяжу паміж уласнымі правамі і жаданнямі. Жаданні ва ўсіх дзяцей розныя, а правы - аднолькавыя: на развіццё, здароўе, чыстае паветра, сваё меркаванне, клопат бацькоў, недатыкальнасць.

**Пасля ўрока, калі ў малых спыталі, ці сутыкаліся яны з надакучлівымі незнаёмцамі, пяцёра з дваццаці пяці - кожнае пятае дзіця! - расказалі пра тое, як іх запрашалі "паглядзець кацянят" альбо "пагуляць на прыстаўцы".**

Пасля ўрока, калі ў малых спыталі, ці сутыкаліся яны з надакучлівымі незнаёмцамі, пяцёра з дваццаці пяці - кожнае пятае дзіця! - расказалі пра тое, як іх запрашалі "паглядзець кацянят" альбо "пагуляць на прыстаўцы".

Найбольш сур'ёзнае і аналітычнае вывучэнне тэмы "Правы чалавека як феномен сучаснай цывілізацыі" працягваецца ў 11 класе. Падача тэмы патрабуе ад настаўніка асабліва сур?ёзнага падыходу, глыбокіх ведаў і метадычных прыёмаў.

Урок жа па тэме "Права як усеагульная мера справядлівасці" будуецца на аснове дыялогу і нагадвае вуснае "сачыненне на зададзеную тэму". Вучні не толькі паказваюць свае веды ў галіне правоў чалавека, але і дэманструюць уменне аналізаваць розныя праблемы і такія паняцці як права, справядлівасць, свабода і адказнасць. Пры гэтым адны адказваюць на пытанні творчага дамашняга задання, другія гавораць аб праведзеных самастойна тэматычных даследаваннях, трэція аналізуюць вынікі сацыялагічных апытанняў.

А ў канцы ўрока - падводзяць вынік: для таго каб жыць у дэмакратычным, прававым , свабодным грамадстве, неабходна ведаць свае правы і абавязкі, законы дзяржавы. Але перш чым нешта мяняць у грамадстве, кожны павінен пачаць з удасканалення сябе.

На ўроку Класіфікацыя асноўных правоў і свабод асобы" праводзіцца дзелавая гульня "Абарона творчых праектаў", "Дзяржава, у якой мы хочам жыць".

Урок "Праблемы універсальнасці правоў чалавека і культурнай разнастайнасці свету" плануецца як адкрытае пасяджэнне дэбат-клуба для ўсіх 11 класаў на англійскай мове.

У ходзе анкетавання вучням 11 класаў было прапанавана адказаць на пытанне: ці задаволены вы той інфармацыяй, якая вам даецца на ўроках па правах чалавека?

Вучні адказвалі прыкладна так: "Так, задаволены, паколькі тэмы вывучаюцца паглыблена, з выкарыстаннем добрых дапаможнікаў", "Так, паколькі яна даецца ў поўнай, патрэбнай нам меры", "Нам даюцца ўсе веды, якія могуць спатрэбіцца".

Важным складнікам работы гімназіі ў галіне прававога навучання з'яўляецца пазаўрочная работа праз сетку клубаў, аб'яднанняў.

Гімназія № 1 імя Ф. Скарыны Мінска

**А ў канцы ўрока - падводзяць вынік: для таго каб жыць у дэмакратычным, прававым, свабодным грамадстве, неабходна ведаць свае правы і абавязкі, законы дзяржавы. Але перш чым нешта мяняць у грамадстве, кожны павінен пачаць з удасканалення сябе.**

з'яўляецца асацыіраванай школай ЮНЕСКА з 1986 года. У нас працуе свой клуб ЮНЕСКА. Вывучэнне правоў чалавека, правоў дзіцяці - адзін з напрамкаў дзейнасці гэтага клуба побач з такімі, як экалогія, міжнароднае супрацоўніцтва, праблемы моладзі, СНІД і г.д. Гімназісты - актыўныя ўдзельнікі семінараў, выязных лагераў, якія арганізуе Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА. Якраз у ходзе аднаго з пасяджэнняў клуба ў нашых старшакласнікаў узнікла ідэя правесці трэнінг па вывучэнню правоў чалавека малодшых і сярэдніх класаў. Яго праводзілі гімназісты 11 юрыдычнага класа, а вядучай выступіла прэзідэнт гімназічнага клуба ЮНЕСКА - Маша Бардашун.

Ужо сёмы год у гімназіі працуе дэбат-клуб. Тут нашы гімназісты маюць магчымасць развіваць крытычнае мысленне, уменне слухаць, навыкі аргументацыі, рытарычныя навыкі, моўныя навыкі - дыскусіі, дэбаты, як і ў клубе ЮНЕСКА, вядуцца на англійскай мове. Гімназічная каманда дэбат-клуба ўдзельнічае ў гарадскіх і рэспубліканскіх турнірах і мае магчымасць выйсці на міжнародныя спаборніцтвы. Праблема, над якой працуе наш гімназічны дэбат-клуб у гэтым годзе - "Правы чалавека павінны быць культурна абумоўлены".

Цікавай з'яўляецца работа і дыспут-клуба старшакласнікаў. На яго пасяджэннях пытанні захавання правоў чалавека, правоў дзіцяці, як і іх абавязкаў, разглядаюцца не абстрактна і тэарэтычна, а ў практычнай плоскасці, дастасоўна да нашага ж гімназічнага жыцця.

Гімназісты актыўна ўдзельнічаюць у навукова-практычнай рабоце: штогод у нас праходзяць канферэнцыі, адна з секцый якіх - прававая; удзельнічаюць у прававых алімпіядах, якія штогод праводзяцца ў Ленінскім раёне.

У гімназіі распрацавана і дзейнічае комплексна-мэтавая праграма "Грамадзянін", у рамках якой праводзяцца конкурсы малюнкаў, творчых работ, распрацавана тэматыка класных гадзін па гэтай тэме.

У 10-11 класах у якасці адной з дысцыплін выкладаецца курс "Тэорыя права". У створаную творчую групу педагагічных работнікаў, каб ахапіць праблему прававога выхавання з усіх бакоў, мы ўключылі выкладчыкаў гісторыі, настаўнікаў пачатковых класаў і куратараў.

У выніку назапашаны немалы метадычны, дыдактычны матэрыял па праблеме.

**Надзея ЖАЎНЯК,**
**намеснік дырэктара гімназіі № 1 Мінска.**

